Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 11 сакавіка 1988 г. № 11 (3421) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## УНУМАРЫ:



У МІНУТУ АДПАЧЫНКУ.

Пакой эмацыянальна-псіхалагічнай разгрузкі прадзільнага цэха Пінскага вытворчага прадзільна-трыкатажнага аб'яднання імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

 

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ● УСЁ СПРАМЛЯЕМ?
# ● НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ
# ● А Ў АДКАЗ—«НЯМА...»
# ● МЕТРО Ў ВЕРХНІМ ГОРАДЗЕ: СІГНАЛ ТРЫВОГІ

Артыкул В. Пашкевіча «Неспакойная плынь Прыпяці» новым болем разануў па сэрцы. Я не спецыяліст (нешта дзіўнае ёсць у гэтым слове), і не мне меркаваць аб мэтазгоднасці абвалявання ці тэхніка-эканамічных абгрунтаваннях гідралагічнай абстаноўкі. Хай аб іх мяркуюць іншыя. Я мастак і, як «служитель красоты», аберагаю хараство прыроды.

Скажу адразу: тое, што належыць усім, нельга аддаваць у рукі толькі спецыялістам, асабліва спецыялістам з «хранічнай недастатковасцю» лірыкі.

У нас у Віцебску неяк распачалі кампанію па «спрамленні»... дрэў. Кожнае дрэва з прыкметамі «свавольства» формы аб'явілі «вне закона». Каб стаялі як па камандзе «смірна!». Да сённяшняга дня студэнты мастацка-графічнага факультэта педінстытута ў час летняга пленэра, не могуць знайсці ў горадзе дрэва, якое не было б падобна на іншае. Усе славутасці флоры выкарчавалі. Мабыць, усе, хто бываў у Рызе, назаўсёды запомніў цуды раслінных форм, якія бытуюць там побач з цудамі архітэктуры. Ці не тая ж тэндэнцыя «спрамлення» прывяла ў нас да страт архітэктурных шэдэўраў, ад таго і блукаем мы, як сіроты, па прамых праспектах бездухоўнай геаметрыі.

Угледзьцеся ў геаграфічную карту Зямлі. Схема, а дыхае жыццём! Бо кожная лінія — абрыс прыроды. І мы замахваемся на гэты цуд?!

**А. МЕМУС,**
**мастак.**

г. Віцебск.

●

Вельмі ўсхваляваў мяне артыкул Віталя Тараса «Небяспечная зона». Незайздроснае экалагічнае становішча яшчэ ў 1979 годзе ўстрывожыла мяне. Тады ж і напісаў я верш «З гэтым кончыць неабходна». Пасылаў яго ў многія выданні, але безвынікова. Прапаную «ЛіМу» — як водгук на артыкул.

**«Хвост лісіны» —**
**Вось вам слова —**
**Загазуе ўсё як ёсць,**
**І у Гродне пастулова**
**Звяне-знікне прыгажосць.**

**Ад азотнага завода**
**«Хвост» той сцелецца, паўзе,**
**Нясе немач ён народу,**
**Труціць, дыхаць не дае.**

**Да таго ж,**
**З другога краю**
**У яго з'явіўся «брат»:**
**Вунь хвасты свае ўзнімае**
**Сілікатны камбінат.**

**З гэтым кончыць неабходна**
**Як мага хутчэй,**
**Сябры,**
**Бо іначай згіне Гродна,**
**Згіне горад наш стары.**

Мікола ЯНЧАНКА.

г. Рагачоў.

●

Праблемы музычнага выхавання, лёсу народнай песні, закранутыя ў размове карэспандэнта «Политического собеседника» (1988, № 2, с. 28 — 31) В. Бацкалевіча з галоўным дырыжорам Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР імя Г. Цітовіча, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР, народным артыстам БССР, старшынёй праўлення Беларускага музычнага таварыства М. Дрынеўскім, — вельмі надзённыя. Яны хвалююць шырокія колы грамадскасці, хвалююць і нас, фалькларыстаў, бо адну з галоўных мэт сваёй працы мы бачым у тым, каб традыцыі народных спеваў не перарываліся, а шырыліся, каб народную песню зразумела і падхапіла моладзь. Мы таксама ўжо неаднойчы пісалі пра істотныя недахопы ў прапагандзе народнай песні, выступалі па гэтых праблемах па радыё, па тэлебачанні. Сапраўды, і ў самадзейных, і ў прафесійных харавых калектывах нярэдка значную частку рэпертуару займаюць і не заўсёды ўдалыя апрацоўкі народных песень, часта зробленыя без адчування прыроды песні, шаблонна, якія пры выкананні выдаюцца за сапраўдную творчасць народа. Адбываецца нівеліроўка, страчваецца непаўторнасць народнай песні, якая заўсёды звязана з канкрэтным асяроддзем, з пэўнай мясцовасцю. У выніку часам не адрозніш па выконваемай песні, хто спявае — гродзенцы або віцябчане. Мы вельмі мала арыентуем самадзейныя харавыя калектывы на выкарыстанне свайго мясцовага матэрыялу. На жаль, і кадры, якія едуць на вёску, недастаткова падрыхтаваны для гэтай работы, слаба знаёмы з фальклорам і этнаграфіяй. Зварот калектываў мастацкай самадзейнасці да сваёй спадчыны часта не знаходзіць разумення і падтрымкі з боку кіруючых работнікаў культуры, журы раённых, куставых і абласных аглядаў. Фальклорныя праграмы Беларускага тэлебачання рыхтуюцца рознымі рэдакцыямі і не заўсёды на належным узроўні. Усё гэта так, і наш агульны клопат у тым, каб пераадолець гэтыя недахопы.

Зразумелы нам і клопат М. Дрынеўскага, каб з тэлеэкрана, па радыё часцей гучала натуральная аўтэнтычная беларуская песня. Але нас здзівіла, калі ў якасці адмоўнага прыкладу выканання народных песень М. Дрынеўскі прыводзіць дуэт В. Пархоменка і А. Казака. Здзіўляе, таму што ў рэспубліцы мала іншых выканаўцаў, якія б так глыбока адчувалі народную песню і так ашчадна ставіліся да спадчыны. Захоўваючы народную манеру выканання, яны ўпрыгожваюць песню сваім талентам і майстэрствам. Возьмем, напрыклад, цудоўную народную песню «У цёмным лесе», запісаную на Палачыне. Спевакі дакладна даносяць да аўдыторыі своеасаблівую тыпова полацкую манеру выканання каляндарных абрадавых песень, якой амаль не сустрэнеш у іншых рэгіёнах Беларусі. З такой жа ўвагай да мясцовай фальклорнай традыцыі ставяцца яны да выканання песень з Брэстчыны («Ой, за гаем, гаем зеляненькім»), Гомельшчыны («Зайшло сонца за ваконца»). Ва ўсіх гэтых рэгіёнах нам давodзілася неаднойчы працаваць у фальклорных экспедыцыях, у нас ёсць багатыя фонды палявых запісаў, параўнанне з якімі пераконвае, што дуэт у кожнай песні вельмі дакладна захоўвае мясцовую манеру выканання, нясе слухачу сапраўдны фальклор, сапраўдную беларускую народную песню. Вельмі добра і тое, што выканаўцы адзначаюць, дзе іх песні запісаны, што гэта за песні, — нясуць звесткі пра народную песню слухачам.

Мы перакананы, што станоўчую ацэнку дзейнасці дуэта па прапагандзе народнай песні падзяляюць з намі многія слухачы. Невыпадкова майстэрства аднаго з удзельнікаў дуэта — заслужанай артысткі БССР В. Пархоменка — атрымала высокую ацэнку на фестывалях і конкурсах рознага ўзроўню. Яна дыпламант Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады (у галіне народнай песні). Радасна ўсведамляць, што ў 1987 г. беларуская народная песня была хораша прадстаўлена на Міжнародным конкурсе фальклорных радыёзапісаў у Браціславе, а яе выканаўца В. Пархоменка атрымала званне лаўрэата (1 месца і залаты медаль). Што ж датычыць дуэта, то ён толькі пачынае сваю дзейнасць, пачынае цікава, арганічна працягвае напрамак, ужо прапанаваны В. Пархоменка і прыхільна прыняты слухачом. Крытыка дуэта, якая прагучала ў выказваннях М. Дрынеўскага, нам незразумелая. Думаецца, што ў разважаннях на такую важную для развіцця нацыянальнай культуры тэму неабходна больш аб'ектыўнасці, самакрытычнасці і адказнасці. Дапамога і падтрымка кожнага новага пачынання ў галіне фальклору, аб'ектыўная ацэнка спрыяюць агульнай справе—развіццю нашай нацыянальнай культуры. Думаецца, што менавіта з гэтых пазіцый трэба падыходзіць да ацэнкі дзейнасці фальклорных калектываў, якіх, на жаль, і да гэтага часу не так многа ў рэспубліцы.

**А. ФЯДОСІК,**
**доктар філалагічных навук,**
**К. КАБАШНІКАЎ,**
**доктар філалагічных навук,**
**Г. БАРТАШЭВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**А. ЛІС,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**А. ГУРСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**І. ЦІШЧАНКА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

●

Не магу падзяліць думку Адама Мальдзіса, выказаную ім у артыкуле «Давайце будзем паслядоўнымі» («ЛіМ», 12 лютага, 1988 г.), што прадаўцоў кнігагандлю трэба спецыяльна матэрыяльна заахвочваць за продаж нацыянальнай кнігі. Бо гэта прывядзе да яшчэ больш сумных вынікаў, чым маем зараз. У прапанове не ўлічваецца існаванне «нябачнага» гандлю, дзе беларускай кнізе адводзіцца вельмі значная, але зусім не зайздросная роля.

Ніхто дакладна не ведае, колькі кніг з нагрузкай рэалізуецца «добраахвотамі» з таварыства аматараў кнігі і так званымі грамадскімі распаўсюджвальнікамі. Адно скажу: асобныя творы, а дзе-нідзе амаль поўныя зборы нашых пісьменнікаў трывала ўпісаліся ў сучасны інтэр'ер службовых памяшканняў, дзе працуюць інжынеры і эканамісты, прадстаўнікі дзяржпрыёмкі і бухгалтары (спіс інтэлігентных прафесій мог бы і падоўжыць, пішу толькі тое, з чым сам сустракаюся амаль штодня).

Не, нават не спрабуюць шукаць у іх нашы адукаванцы адказаў на сучасныя пытанні рэчаіснасці. Бо ўсе яны ўтрымліваюць адны пытанні: што рабіць людзям з навязанай літаратурай, куды яе несці (у «Букінісце», вядома, не бяруць — спасылаюцца на адсутнасць плошчаў), дзе хаваць?

З гэтым злом барацьба вядзецца шмат гадоў, але канца не бачна. Не дзіўна: купляпродаж учыняецца палюбоўна, паміж бліжэйшымі родзічамі па мяшчанскаму мысленню.

Ад «нябачнага» гандлю можна было б і адмахнуцца, калі б, па-першае, насельніцтву з перыядычнасцю паступлення новага тавару ў кнігарні воляй-няволяй не ўдзеўбалася б думка аб другараднасці беларускамоўнай літаратуры; па-другое, да невераготнасці не скажалася б зваротная сувязь паміж выдавецтвам і чытачом.

Актывізаваць цікаўнасць пакупнікоў да нацыянальнай кнігі, безумоўна, трэба, але варта шукаць нейкія іншыя шляхі.

На маю думку, мае рацыю вопыт краін, дзе пра «кніжны дэфіцыт», «нагрузку» ніхто не ведае. Там, каб прыцягнуць пакупнікоў, у звычайных кнігарнях прымаюць прачытаную кнігу, незалежна, ёсць яна ў продажы ці не, а ў абмен прапануюць пакупніку на выбар адну з навінак той жа катэгорыі па кошту з 3-працэнтнай скідкай. Відавочна, што пры гэтым новых гандлёвых плошчаў не спатрэбіцца.

**М. ШЛЯФЕР,**
**інжынер.**

г. Магілёў.

●

Мінулай восенню мне давялося пабываць на радзіме Я. Коласа: райсабес прапанаваў мне пуцёўку ў прафілакторый у вёсцы Мікалаеўшчына, які так і называецца — «Радзіма Якуба Коласа».

У гэтым прафілакторыі частка пенсіянераў жыве пастаянна, а другая частка, адпачыўшы тут па пуцёўцы 26 дзён, пакідае прафілакторый.

Хадзіла, знаёмілася з гэтымі мясцінамі і ўсё думала, што гэта ж — радзіма Якуба Коласа, што тут хадзіў і сам пісьменнік. Надвор'е сонечнае, цёплае, у лесе шмат грыбоў.

Аднойчы масавік Міхаіл Міхайлавіч павёў нас у музей. Там мы пазнаёміліся з экспазіцыяй і хатай, дзе сустрэліся ўпершыню Якуб Колас і Янка Купала ў 1912 годзе.

Вырашыла наведаць і бібліятэку, пачытаць часопісы, пагартаць беларускія кнігі. Туды і накіравалася. Прашу даць мне пачытаць беларускія часопісы, ну хоць бы «Полымя». Кажуць, што яго няма. А «Маладосць»? Таксама няма. «А што ж у вас ёсць з беларускіх часопісаў?» — пытаюся я. «Нічога няма»,— прагучала ў адказ. «А ці ёсць у вас кнігі, якія падарылі бібліятэцы беларускія пісьменнікі?» — пацікавілася я. І зноў у адказ: няма. Пісьменнікі сюды не заглядаюць, кніжак сваіх не дораць. І таму я вырашыла аб гэтым становішчы з культурным жыццём у прафілакторыі напісаць у «ЛіМ». Можа, хоць што-небудзь тут зменіцца?

**Л. КАМОЦКАЯ,**
**пенсіянерка.**

г. Мінск.

●

Мне як мінчанцы, якая любіць свой горад і з гордасцю паказвае гасцям стары і новы Мінск, цяжка глядзець на тое, што частка старога Мінска з яго непаўторнымі помнікамі архітэктуры, старадаўнімі і ўтульнымі дворыкамі і вулачкамі не аберагаецца.

Хачу прывесці такія горкія факты.

Будаўніцтва другой чаргі Мінскага метрапалітэна ў раёне Верхняга горада і Замчышча ўжо прывяло да незваротных страт: знішчэння археалагічнага помніка, старажытнейшай вуліцы горада Замкавай, адзінага ацалелага будынка былой аптэкі XVIII ст. на вул. Д. Беднага, а цяпер пагражае разбурэннем помніку архітэктуры: комплексу манастыра бернардзінак з жамчужынай старога горада — саборам XVII ст. на вул. Бакуніна, №№ 3, 5.

У сувязі з работамі — капаннем катлавана, сатрасеннем

## ДА ЮБІЛЕЮ РЭСПУБЛІКІ

**Міністэрствам культуры БССР, Саюзамі пісьменнікаў і тэатральных дзеячаў рэспублікі прынята сумесная пастанова аб правядзенні агляду беларускай драматургіі і тэатральнага мастацтва, прысвечанага 70-годдзю ўтварэння БССР.**

**Мэтай правядзення гэтага мерапрыемства ставіцца далейшае павышэнне ролі тэатральнага мастацтва ў ідэйна-эстэтычным выхаванні працоўных рэспублікі, актывізацыя сумеснай работы драматургаў і майстроў сцэны па стварэнні новых сцэнічных твораў гістарычнай і сучаснай праблематыкі.**

**У аглядзе прымуць удзел усе тэатральныя калектывы рэспублікі. Творцы і аўтары лепшых спектакляў па арыгінальных п'есах будуць адзначаны грашовымі прэміямі, іх работы рэкамендаваны для паказу на II Беларускім тэатральным фестывалі.**

**В. ЛУК'ЯНОВІЧ.**

## ВІНШУЕМ!

**За заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў мастаку-жывапісцу РЭЮ Івану Пятровічу ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР.**

## ПАМЯЦІ КАЛІНОЎСКАГА

**Два цікавыя мерапрыемствы — адкрыццё выстаўкі з калекцыі выкладчыка філасофіі БДУ імя У. І. Леніна А. Белага, прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, і вечар у гонар беларускага змагара за зямлю і волю — адбыліся нядаўна ў Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча г. Мінска.**

**З часткай прадстаўленых на выстаўцы работ (а іх было 45), гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца раней. Гэта серыя графічных лістоў М. Купавы, ілюстрацыі да кнігі У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» А. Кашкурэвіча, адна з першых работ, прысвечаных барацьбіту, —ілюстрацыя да паэмы Міхася Машары «Смерць Кастуся Каліноўскага» П. Сергіевіча.**

**Былі і творы, якія раней не экспанаваліся. Гэта — праект помніка Каліноўскаму скульптара В. Вараб'ёва, жывапісны партрэт героя, выкананы мастаком В. Барабанцавым; бюсты, аўтарамі якіх з'яўляюцца скульптары С. Логвін і М. Несцяроўскі, і іншыя творы.**

**На вечары, які адбыўся пасля вернісажа, гледачоў таксама чакаў сюрпрыз. У выкананні студэнтаў Мінскага інстытута культуры прагучаў харал «А хто там ідзе?» на словы Я. Купалы і музыку Л. Рагоўскага. Была паказана інсцэніроўка паэмы А. Куляшова «Хамуціус», на сцэне тэатральнай залы палаца выконваліся вершы, прысвечаныя Каліноўскаму, урыўкі з яго «Лістоў з-пад шыбеніцы», нумароў «Мужыцкай праўды».**

**Б. СВЕТАВА.**

## Запрашае тэатр з Харкава

**Сёння ў Мінску распачынае гастролі Харкаўскі акадэмічны ўкраінскі драматычны тэатр імя Т. Р. Шаўчэнкі, адзін з самых вядомых калектываў краіны. Ён заснаваны ў 1922 годзе выдатным украінскім савецкім рэжысёрам Лесем Курбасам. Багатая творчая спадчына, традыцыі рэвалюцыйнага мінулага вымагаюць асаблівай адказнасці і творчых намаганняў калектыву. На гастролі ў Мінск (яны працягнуцца да 20 сакавіка і будуць праходзіць на сцэне Дома афіцэраў) тэатр прывёз свае лепшыя спектаклі: «Тэўе-малочнік» паводле Шолам-Алейхема, «Палёт над гняздом зязюлі» Д. Васермана, «Шальменка-дзяншчык» Г. Квіткі-Аснаўяненкі, «705 дзён да Нюрнберга» А. Бляцкага і З. Сагалава.**

**Т. КІКЦЕВА.**



 

**«Словам, нацыянальнай палітыкай на сучасным этапе нам трэба заняцца вельмі грунтоўна. Па ўсіх лініях — і ў тэорыі, і ў практыцы. Гэта — прынцыповае, жыццёва важнае пытанне нашага грамадства. Думаю, адзін з Пленумаў Цэнтральнага Камітэта нам трэба прысвяціць праблемам нацыянальнай палітыкі», — гаварыў на лютаўскім Пленуме ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.**

**Паказальна і па-свойму сімптаматычна тое, што на парадак дня чарговага пленума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які, як паведамлялася, адбыўся на пачатку сакавіка, было вынесена пытанне: «Удасканаленне нацыянальных адносін, перабудова і задачы сучаснай літаратуры». Два дні ў галоўнай зале Цэнтральнага дома літаратараў імя Фадзеева ішла ажыўленая, зацікаўленая, часам надзвычай вострая дыскусія па вынесенай на абмеркаванне тэме. Прамоўцы, прадстаўнікі літаратур народаў СССР, гаварылі аб неабходнасці вяртання да ленінскіх нормаў і прынцыпаў, ленінскіх традыцый у галіне нацыянальнай палітыкі, ачышчэння яе ад напластаванняў часоў культу і застою, аб дабратворным уплыве на справу патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання палітыкі дэмакратызацыі і абнаўлення, аб нацыянальным фактары перабудовы, аб становішчы моў і разнамоўных літаратур Краіны Саветаў, аб далейшых шляхах культурна-нацыянальнага і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў краіне. Дакладчык, першы сакратар праўлення СП СССР У. Карпаў назваў у заключным слове пісьменніцкі пленум «разведкай боем перад Пленумам ЦК КПСС па праблемах нацыянальнай палітыкі», і для такога вываду ў яго былі адпаведныя падставы.**

**Ад беларускай пісьменніцкай арганізацыі на пленуме выступіў першы сакратар праўлення СП Беларусі, сакратар праўлення СП СССР Н. Гілевіч. Ніжэй друкуем у перакладзе стэнаграму яго выступлення.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# ІМЕМ САПРАЎДНАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

**Выступленне на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР**

Мэта сённяшняй гаворкі і ўсёй нашай будучай работы — садзейнічаць ідэйна-палітычнай і маральнай кансалідацыі грамадства на аснове ідэй перабудовы, у імя перабудовы. Паколькі гэта прама звязана з лёсамі Айчыны і сацыялізму, пісьменніцкае слова, як, мабыць, ніколі за ўсе пасляваенныя гады, заклікана быць дзейсным. Але якое слова можа сёння мець у чытача поспех? Толькі гранічна сумленнае і таленавітае. Вось чаму тым, хто хітруе і хлусіць, трэба сказаць: дарэмна стараецеся, сляпых ужо няма і дурняў няма таксама — усё ўсім бачна і ўсё зразумела. Марная справа — хітраваць, замоўчваць, недагаворваць і гэтую непрыгожую гульню выдаваць за шчырае імкненне ўдасканальваць нашы міжнацыянальныя адносіны. Гэтак жа сама непатрэбны крык і ўзаемныя абвінавачванні. Усё, што патрабуецца, — гэта сапраўды брацкае ўзаеморазуменне і ўзаемапавага.

У сферы, пра якую мы сёння гаворым, трэба рашуча спыніць самападман, паказуху і пусканне туману, адкінуць звычку вешаць на саромнае месца фігавы лісток, гэтак жа, як і агульнымі валавымі паказчыкамі змазваць канкрэтную і даволі нярадасную карціну. Растлумачу гэта канкрэтнымі прыкладамі.

Робім у адной школе Мінска адзін першы клас — з пяці паралельных — беларускамоўным і ва ўвесь голас заяўляем: ёсць беларуская школа ў сталіцы БССР! І калі трэба — прывядзём у гэты адзіны клас на экскурсію дэлегацыю, асабліва — замежную. Альбо: аб'яўляем, што ў Беларусі амаль палова школ — беларускія; як быццам не так ужо і кепска; але колькі дзяцей вучыцца ў гэтых беларускіх школах — мы не гаворым; а іх у шмат разоў меней, чым у рускіх школах, бо гэта маленькія пачатковыя і васьмігадовыя вясковыя школкі. Альбо: пахваляемся шматмільённымі тыражамі выдадзеных у рэспубліцы кніг, а колькі з гэтых мільёнаў на беларускай мове? Мізэрны працэнт. Сказаць сорамна. Таму і замоўчваем.

Вось так і хлусім і абманваем — і сябе, і іншых. І да якога ж часу? Як доўга будзе гэта яшчэ працягвацца? Спынім мы нарэшце гэтую хлусню і крывадушша, ці — як спытаў герой самага новага апавядання Залыгіна — «ці Чарнобылям не будзе канца да самага Канца?»

Развіццё культуры немагчыма без развіцця дэмакратыі. Вышэйшая ступень культуры — інтэрнацыяналізм, пачуццё братэрства людзей. Літаратура, якая не абуджае ў чытачоў гэтага пачуцця, — не самая лепшая літаратура. Прырода сапраўднай мастацкай культуры — інтэрнацыяналістычная. Інтэрнацыяналізм — добры, спагадлівы, справядлівы. Але не злосны, не цынічны, не жорсткі.

Калі Распуцін з болем гаворыць пра лёс Байкала — мне гэта зразумела так, нібы гаворка ідзе пра наша возера Нарач ці пра нашу Прыпяць. Калі з гэтай трыбуны Каіпбергенаў гаварыў пра пакутніцкую смерць Арала, пра трагедыю каракалпакскага народа — мне было гэтак жа балюча, мяне ахоплівала гэткае ж пачуццё пратэсту, як у жалобныя і страшныя дні Чарнобыля. Але і калі я тут жа, у гэтай зале, гаварыў пра трагічнае становішча беларускай мовы — Сяргей Паўлавіч Залыгін з болем у сэрцы сказаў: «Гэта жахліва...», штосьці падобнае сказалі і многія іншыя таварышы і нібыта ўзялі на сябе частку маёй непазбыўнай скрухі, і на душы ў мяне стала трошку лягчэй.

Мы вельмі многа гаварылі і гаворым пра выхаванне інтэрнацыяналізму. Але паўстае пытанне: ці лёгка выхаваць у сыноў і дачок аднаго народа пачуццё радасці за поспехі другіх народаў у развіцці нацыянальнай культуры, калі яны бачаць, у якім становішчы знаходзіцца іх уласная культура, іх нацыянальнае мастацтва, іх родная мова? Калі іх гняце пачуццё крыўды, незадаволенасці і пратэсту?

Пытанне мовы і нацыянальнай школы ў кантэксце тэмы нашага пленума прадаўжае заставацца самым балючым пытаннем. Што значыць пазбавіць яшчэ ў малалетнім узросце новае пакаленне грамадзян роднай мовы? Гэта значыць адарваць яго ад усёй здабытай за стагоддзі духоўнай спадчыны народа, якая перш за ўсё ў яго мове, у нацыянальным фальклоры, літаратуры і мастацтве. І што ж? Адарваўшы ад нацыянальнай культурнай глебы, мы хочам выхаваць моладзь культурнай? Цяпер многія з нацыянальна абезабліччаных маладых людзей, можна сказаць, робяцца відушчымі, і гэта нараджае ў іх пачуццё крыўды і азлобленасці за тое, што некалі ў дзяцінстве ў іх не выхавалі пачуцця нацыянальнай годнасці, павагі і любові да мовы продкаў, ведання гісторыі свайго краю і народа. Адсюль пачынаюцца праблемы, якія ніякімі заклікамі і заклінаннямі не вырашыць, а толькі рэальным выпраўленнем становішча, што склалася.

Пакуль мы не прызнаем, што адымаць у дзяцей з ранняга ўзросту магчымасць жыць у стыхіі роднай мовы — гэта амаральна, гэта ідзе супраць вышэйшага распарадку самой прыроды, супраць законнага і натуральнага права чалавека,— пакуль мы гэтага не зразумеем і не прызнаем — гармоніі ў наладжванні ўзаемаадносін нацыянальнага і інтэрнацыянальнага мы не дасягнем. Бо гармонія — гэта не уніфікацыя, не абезабліччванне, не страта народам свайго аблічча. А такое абезабліччванне ідзе, прадаўжаецца, і вельмі інтэнсіўнымі тэмпамі, і калі гэты працэс не спыніць, то аднойчы мы, не пазнаўшы сябе, усклікнем: «Ды ці народ мы?» Нядаўна ў гутарцы з карэспандэнтам «Литературной России» Расул Гамзатаў сказаў: «Без нацыянальных традыцый рэспубліка падобна на нарыхтоўчую кантору». Знішчальна дакладнае вызначэнне! Дзесяткі гадоў хаджу і езджу па роднай Беларусі і дзе ні ўзіраюся ў сацыяльна-культурны побыт, у духоўнае аблічча горада ці вёскі, — амаль усюды і заўсёды мяне гняце адчуванне, што жыццё губляе сваю прыродную душу, прыродныя колеры і гукі, душэўную цеплыню і святло, быццам і не жыццё ўжо, а нейкае суцэльнае выкананне службовых абавязкаў. Мы ўсё намагаемся стварыць новы культурны быт, новыя святы і абрады, але як? На голым месцы? І ў адрыве ад першага элемента культуры — мовы? Забілі здаровыя, прыгожыя народныя традыцыі і хочам, каб з мёртвага штосьці прарасло? Карані дрэва падсеклі і здзіўляемся, чаму яно не зелянее, не квітнее і не дае пладоў?..

За апошнія дзесяцігоддзі мы звыкліся, што калі з трыбуны гаворыцца пра дружбу народаў, то гэта будуць агульныя, абкатаныя, збітыя словы і фразы. Таму што прамоўцы ішлі не ад жыцця, не ад рэальнай рэчаіснасці, а ад лозунгаў, а гэта значыць таксама ад фразы. Фраза нараджала фразу. А на самай справе тым часам паступова ішло зніжэнне культуры міжнацыянальных адносін, якая залежыць ад узроўню маральнай культуры грамадства.

Горка пра гэта думаць і гаварыць, але мне здаецца, што ў нашых міжнацыянальных адносінах стала меней, я сказаў бы, абачлівасці і далікатнасці, меней шчырасці, узаеморазумення і, галоўнае, — узаемнай бескарыслівай зацікаўленасці. Нярэдка бачыш, што гэтая зацікаўленасць нейкая фармальная, казённа-бюракратычная.

Звярніце ўвагу, якой скорагаворкай, адным абзацам, у дакладах і прамовах з высокіх трыбун гаворыцца пра нацыянальную культуру і мову. А гэта ж адно з самых галоўных палітычных пытанняў у шматнацыянальнай краіне. Пры гэтым і ў адным-адзіным абзацы перш за ўсё нагадваюць пра небяспеку нацыянальнай адасобленасці. Кожны раз хочацца спытаць: хто з пісьменнікаў, з дзеячаў культуры патрабуе гэтай адасобленасці? Хто з пісьменнікаў супраць двухмоўя? Хто з нас не разумее ролі і значэння рускай мовы ў нашай краіне? Хто супраць узаемасувязі, узаемаўплыву, узаемаўзбагачэння нашых літаратур і культур? Ды якімі ж прымітыўнымі істотамі трэба ўяўляць сабе пісьменнікаў, каб такое падазраваць у іх? Але ўся справа ў тым, што падазраюць і абвінавачваюць звычайна тыя ўсёзнаючыя і непахісныя таварышы, якія даўно, раз і назаўсёды засвоілі адзін тэзіс: культуры ў нас збліжаюцца, а мовы зліваюцца, і ў хуткім часе ўсё будзе прыведзена да адной роўніцы. Гэтым «збліжальнікам» і «злівальнікам» амаль немагчыма растлумачыць беспадстаўнасць, ненавуковасць і абсурднасць іх тэзіса. Немагчыма хоць бы таму, што многім з іх у такім выпадку давядзецца ў сталым узросце вывучыць сваю родную мову, ад якой яны даўно адракліся і забылі, бо ў іх уяўленні найбольш культурны чалавек той, хто далей за ўсіх ад роднай мовы адаліўся. І яны ніяк не рэагуюць на голас, на крык, на лямант мастацкай — дадам: сумленнай і ўдумнай — інтэлігенцыі аб тым, што захаванне і развіццё нацыянальных моў і культур — на карысць і на радасць усяму чалавецтву. І яны прыкладаюць намаганні, каб і далей па ўсёй краіне ішла уніфікацыя культурнага жыцця, каб рознакаляровае мноства культур звесці да адной масавай культуры, а больш дакладна — да аднаго ўсесаюзнага бескультур'я, да таго, што нядаўна ў «Литературной газете» Атар Чыладзе вельмі дакладна назваў «глабальным правінцыялізмам».

У адным з нумароў «Правды», у пісьме групы відных тэатральных дзеячаў ёсць такія, вельмі правільныя, на мой погляд, словы: «Па-за рэальным супастаўленнем нашага шляху з ленінскім компасам да сапраўднага сацыялізму не праб'ешся». Крыху перафразіруючы гэтую думку, скажу, што і па-за рэальным клопатам аб развіцці нацыянальнай мовы, літаратуры і мастацтва да сапраўднага сацыялізму мы таксама не праб'ёмся. Таму што сацыялізм вымагае высокай культуры і маральнасці. А што бывае, калі гэтымі катэгорыямі пачынаюць грэбаваць— нас дастаткова пераканаў час, які мы цяпер для зручнасці называем часам «культу асобы».

Адна з прычын узнікнення праблем з нацыянальнай мовай і школай — празмерная цэнтралізацыя ў гэтай галіне. Прымаюцца рашэнні і пастановы на адну агульную мерку для ўсяго Савецкага Саюза. А праблемы ж тут могуць быць і бываюць у кожнай рэспубліцы свае, спецыфічныя. На прыклад, дзесьці, у нейкай рэспубліцы ёсць цяжкасці з вывучэннем рускай мовы. А ў Беларусі — усё наадварот: з рускай мовай праблем няма, я б сказаў — зусім няма, але ёсць, і вялікія, праблемы з роднай беларускай мовай. Аднак жа і ў нас у рэспубліцы зарплату павялічылі выкладчыкам рускай мовы, хаця, калі зыходзіць з рэальнай сітуацыі, — дык трэба павялічыць зарплату выкладчыкам беларускай мовы— каб падтрымаць іх, заахвоціць, бо яны працуюць у даволі цяжкіх умовах, ва ўмовах агульнага нігілістычнага стаўлення да беларускай мовы.

І нарэшце — дзве канкрэтныя прапановы: добра было б да 70-годдзя СССР выдаць у Маскве на рускай мове, вялікім тыражом — каб трапіў ва ўсе бібліятэкі і школы, двухтомны анталагічны зборнік пра кожную з 15-ці рэспублік — у першым томе якога выступяць паэты, пісьменнікі, эсэісты і публіцысты ўсяго Савецкага Саюза, у другім томе — усяго замежнага свету. Як падрыхтаваць такія зборнікі — пытанне практычнае і не тут яго абмяркоўваць. Другое. У пастанову данага пленума СП СССР прапаную ўнесці такі параграф: пленум звяртаецца ў Вярхоўны Савет СССР з просьбай прыняць закон аб тым, што ў кожнай рэспубліцы дзяржаўнай мовай з'яўляецца мова народа, які даў назву рэспубліцы, г. зн. вярнуцца да таго, як было пры Леніне.

**P. S. Чытач, напэўна, заўважыў, што маё выступленне на пленуме ў падачы «Литературной газеты» пачынаецца крытычнай заўвагай у адрас даклада У. В. Карпава. Тут я гэтыя радкі зняў, бо мая заўвага была часткова ўлічана пры падрыхтоўцы даклада да публікацыі, у выніку чаго даведка пра стан сучаснай беларускай літаратуры, пададзеная ў «ЛГ», разыходзіцца з той, якая прагучала з трыбуны пленума. І яшчэ: лічу сваім абавязкам падкрэсліць, што даведка для дакладчыка была зроблена без удзелу сакратарыята СП БССР.**

## СУСТРЭЧА Ў МЁТЧЫ

**У Мётчанскай сярэдняй школе Барысаўскага раёна адбылася сустрэча з Рыгорам Барадуліным. Падрыхтоўка да гэтага мерапрыемства пачалася загадзя. Былі выпушчаны спецыяльныя насценныя газеты, прысвечаныя жыццю і творчасці пісьменніка, арганізавана выстаўка яго кніг.**

**Першая сустрэча паэта адбылася з малодшымі школьнікамі. Дзеці слухалі вершы Р. Барадуліна, чыталі яго творы самі, задавалі шмат пытанняў, паказвалі інсцэніроўкі вядомых беларускіх казак, кампазіцыі па кнігах «Індыкала-Кудыкала», «Азбука», «Ай, не буду, не хачу!»**

**Пасля кароткага знаёмства госця са школай, з яе краязнаўчым музеем адбыўся літаратурны вечар, на які прыйшлі таксама вучні і настаўнікі суседніх школ, працаўнікі вёскі, кіраўнікі гаспадаркі. Барадулін чытаў свае творы, адказваў на шматлікія пытанні. Потым школьнікі чыталі вершы паэта, далі канцэрт. Асабліва прыйшліся паэту даспадобы беларускія песні ў выкананні школьнай агітбрыгады. На заканчэнне словы падзякі Р. Барадуліну за яго прыезд, цікавую гаворку выказаў дырэктар саўгаса «Мётча» П. Стралкоўскі, а члены вучкома ўручылі ганароваму госцю кнігу-сувенір, зробленую з дрэва ў школьнай майстэрні.**

**Закончыць расказ аб гэтай сустрэчы хочацца словамі, запісанымі Р. Барадуліным у Кнігу ганаровых гасцей школы: «У марозныя дні абагрэўся душой у сценах Мётчанскай школы, адагрэўся, бо пачуў, як шчыра, як натуральна, як спаконвечна — нязводна гучыць у самых маладых вуснах наша роднае беларускае слова».**

**Уладзімір ЛАЙКОЎ,**
**дырэктар Мётчанскай СШ.**

ЗБОРНІК літаратурных партрэтаў «Ісці да чалавека», напісаных Аркадзем Русецкім, адрозніваецца ад іншых падобных выданняў, што ўбачылі свет адначасова з ім. І не толькі таму, што аўтар яго, кандыдат філасофскіх навук, які займаецца даследаваннем праблем беларускай мастацкай культуры, зрабіў сур'ёзную пробу пяра ў галіне літаратурна-мастацкай крытыкі. Ёсць адрозненне куды больш істотнае. Аркадзь Русецкі разважае не проста пра творчасць пісьменнікаў, блізкіх яму па свайму светапогляду, светаўспрыманню, а гаворыць пра кнігі літаратараў, якія нарадзіліся ў адной вобласці.

# З ВІЦЕБСКІХ КРЫНІЦ

## Кніга пра пісьменнікаў-землякоў

І Васіль Быкаў, і Уладзімір Караткевіч, і Анатоль Вялюгін, і Рыгор Барадулін, і Генадзь Бураўкін, і Янка Сіпакоў, і Анатоль Вярцінскі, і Сяргей Законнікаў родам з Віцебшчыны. Зразумела, гэты факт сам па сабе яшчэ нічога не значыць, тым не менш пры ўважлівым прачытанні іхніх твораў — а гэта і робіць аўтар — можна заўважыць, што аб чым бы ні расказвалі, ні пісалі згаданыя пісьменнікі, скразным лейтматывам праходзіць праз іх творчасць прывязанасць да родных мясцін. Выяўляецца яна, праўда, па-рознаму. У адных выпадках, напрыклад, у паэтаў, адчуваецца ў апяванні рэалій, блізкіх і дарагіх з маленства. У празаікаў сувязі гэтыя куды больш апасродкаваныя. Прыцягненне родных мясцін — у самым шырокім, вядома, сэнсе — імкненне раскрываць шматграннасць жыцця людзей, адметнасць іх учынкаў і паводзін з пазіцыі народнай маралі, таго ўяўлення аб народным характары, што замацавалася ў свядомасці ад шматлікіх сустрэч з землякамі.

Гаворка, канечне, ідзе не аб нейкай рэгіянальнай літаратуры ці, скажам, нейкай абласной школе. Зроблена ўдалая спроба, разглядаючы канкрэтныя мастацкія індывідуальнасці, адначасова паказаць цэласную карціну творчасці пісьменнікаў-землякоў. У гэтым спісе па праву першым прадстаўлены В. Быкаў. Прызнацца, калі чытаеш артыкул «Праўда на ўсё жыццё», напачатку з'яўляецца і некаторая няўпэўненасць: а ці здолее аўтар сказаць пра сусветна вядомага пісьменніка нешта сваё, іншымі не заўважанае, ці пераадолее хрэстаматыйнае ўяўленне аб В. Быкаве як летапісцу мінулай вайны.

Адразу скажу: А. Русецкі пераадолеў хрэстаматыйнасць уяўлення аб творчасці В. Быкава. Прытым з поспехам, адмовіўшыся ад разважанняў аб усіх яго творах і вылучыўшы сярод іх аповесць «Знак бяды». І, пэўна, не толькі таму, што за гэты твор пісьменнік удастоены звання лаўрэата Ленінскай прэміі. У аповесці «Знак бяды» важны расказ і пра ваенныя падзеі, і пра тое, што адбывалася ў канцы трыццатых гадоў. Аб трыццатых сёння гаворыцца і пішацца шмат. Але ў той час, калі ствараўся «Знак бяды», пра такі перыяд маўчалі. В. Быкаў жа «праз успаміны галоўных герояў Сцепаніды і Пятра Багацькаў... паказвае перыяд масавай калектывізацыі на Лепельшчыне, складаны 1937 год». «Такая рэтраспекцыя, — зазначае Аркадзь Русецкі, — на наш погляд, зусім заканамерная і апраўданая. Тым больш, што падзеі 30-х гадоў не спрашчаюцца, не скругляюцца вострыя праблемы, у якіх фарміраваліся характары герояў. І дзякуючы гэтаму мы больш зразумеем галоўную думку аповесці: патрыятызм людзей, якія атрымаў сацыяльную праўды. Тым самым выхаплена істотнае ў творчасці пісьменніка. На гэтым — «праўда на ўсё жыццё» — і пабудаваны літаратурны партрэт В. Быкава.

Разважаючы ж пра творчасць У. Караткевіча («Праз гісторыю ў сучаснасць»), Аркадзь Русецкі, наадварот, падыходзіць да яе, як да з'явы сінтэтычнай, звяртаючыся і да паэзіі, і да прозы, і да драматургіі пісьменніка. Але і тут ёсць зыходны момант — стаўленне У. Караткевіча да гісторыі народа, адлюстраванне гэтай гісторыі, высвечванне на гістарычным фоне лёсу народа і такіх выдатных прадстаўнікоў, як Кастусь Каліноўскі.

Астатнія літаратурныя партрэты таксама пададзены аб'ёмна, з выхадам на праблемны аналіз, хоць Аркадзь Русецкі не спрабуе, як кажуць, ахапіць неахопнае. Напрыклад, гаворачы пра А. Вялюгіна («Яго спелае лета»), крытык у асноўным разглядае вялюгінскую Ленініяну, і ў першую чаргу вядомую паэму «Вецер з Волгі», што стала прыкметнай з'явай у беларускай паэзіі.

У паэзіі Р. Барадуліна на першы план вылучае прывязанасць аўтара да роднай яму Ушаччыны, аб чым, дарэчы, сведчыць і назва артыкула «Заўсёды помніць родныя сцежкі». Але гэта не значыць, што спрашчаецца разуменне творчасці аднаго з самых цікавых сучасных паэтаў. На яе Аркадзь Русецкі глядзіць як на з'яву: «Творчасць пісьменніка або паэта характарызуецца яе прыналежнасцю да часу, да вопыту эпохі, увасобленага ў асабістым мастацкім вопыце, новым пастаянным выяўленнем назапашанага духоўнага скарбу. Сёння можна з упэўненасцю сведчыць, што ўсім гэтым патрабаванням у поўнай меры адпавядае паэзія Р. Барадуліна. Абвостранае пачуццё патрыятызму ў спалучэнні з высокім мастацкім майстэрствам, яго імкненне паўсядзённа спасцігаць Радзімы «абсяг», бачыць жыцця «неруш» і спазнаць яго «нагбом», сведчыць аб актыўнасці грамадзянскай і творчай пазіцыі паэта».

Дзякуючы кнізе А. Русецкага, чытач пашырыць сваё ўяўленне аб творчасці Г. Бураўкіна («Маладосць душы»), Я. Сіпакова («Бачыць чалавека»), А. Вярцінскага («Ісці да людзей»). С. Законнікава («Пад уважлівым позіркам Радзімы»). Кожны з гэтых літаратурных партрэтаў нясе на сабе адбітак непаўторнасці, адметнасці таго ці іншага пісьменніка. Хоць, сказаць папраўдзе, хацелася б больш шырокай размовы аб паэзіі Г. Бураўкіна. Адчуваецца пэўная фрагментарнасць ва ўражаннях аб творчасці С. Законнікава.

Гаворачы пра жанрава-стылёвую асаблівасць зборніка, заўважу, што Аркадзь Русецкі выкарыстоўвае і форму інтэрв'ю — большасць партрэтаў заканчваюцца гаворкай аўтара з пісьменнікамі аб актуальных праблемах літаратуры і жыцця. Ёсць магчымасць прасачыць, як самі творцы ставяцца да надзённых пытанняў сучаснасці, як іх задумы знаходзяць сваё мастакоўскае выяўленне.

«Ісці да чалавека» — кніга (яна выдадзена ў «Мастацкай літаратуры»), напісаная пяром чалавека, улюбёнага ў літаратуру, даследчыка ўдумлівага і дасведчанага.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# У ГАСЦЯХ—«ГОСЦІЦА»

Вясна, вясна!
Што вынесла? Што вынесла?
— Сыр і масла, —
Каб зіма згасла!

Гуканнем вясны пачаў сваё выступленне дзіцячы фальклорны калектыў «Госціца» Беларускага радыё і тэлебачання на «Сакавіцкіх вячорках» у Доме літаратара.

Усяго два гады існуе гэты калектыў, якім кіруе Ларыса Сімаковіч, але паспеў ужо заваяваць прыхільнасць і папулярнасць у гледачоў. Асабліва запамінальнай для ўдзельнікаў ансамбля была паездка ў Маскву, дзе «Госціца» пазнаёміла масквічоў са старажытным абрадам нашага народа — калядкамі. Нядаўна калектыў выступіў у тэлеперадачы «Песню берыце з сабой». Узрост удзельнікаў ансамбля — ад чатырох да пятнаццаці гадоў. Усе яны з задавальненнем спяваюць малавядомыя беларускія народныя песні, выступаюць перад ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, даюць шматлікія канцэрты ў школах сталіцы.

На вечары выступілі артысты Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы З. Белахвосцік і А. Гарцуеў. Са святам 8 Сакавіка жанчын павіншавалі пісьменнікі Г. Дзмітрыеў, М. Скрыпка, Л. Прокша, укладальнік кнігі «Песнь о женщине» В. Вільтоўскі.

А. РУНЕВІЧ.

...ТЫЯ радкі пра захопленых у Прычарнамор'і ўзброенымі воямі трох незвычайных палонных з музычнымі інструментамі, якія палонныя называлі гуслямі, а візантыйскія гісторыкі VI стагоддзя нашай эры — фуслямі, мог чытаць і сам Францішак Скарына. І называлі сябе тыя палонныя славянамі, і гаварылі, што няма жалеза ў іх краіне і што, не ведаючы вайны і любячы музыку, яны вядуць жыццё мірнае і спакойнае, — з гуслямі ў руках...

калі чалавек не разумее таго, што ён павінен, то трэба даць яму гэтае разуменне, абудзіць у ім гэтае разуменне. Так менавіта пачынаўся Скарына — будзіцель, кніжнік, асветнік, пачынаўся на скрыжалях мудрасці і музыкі, веры ў мудрасць чалавека і красу мелодыі і літары, пачынаўся як гістарычная асоба і непаўторная індывідуальнасць.

На жаль, да апошняга часу на Скарыну як індывідуальнасць мы часта пазіраем яшчэ, так сказаць, зверху ўніз, а не найменш удзячныя мы Сярэдневякоўю, хоць яму б мы павінны былі быць, на мой погляд, у большай ступені ўдзячныя, чым Антычнасці. І якраз ці не ў сувязі з агульнай недаацэнкай Сярэдневякоўя мы і цягнем Скарыну ў «чыстыя» дзеячы Адраджэння, каб высакародніць яго, бо якое ж, маўляў, высакароднае гэтае Сярэдневякоўе, што ў нас асацыіруецца з інквізіцыяй, езуітамі, талмудзістамі, і толькі. Асацыіруецца не без прычын: бо яно якраз з найбольшай сілай сябе

Алег ЛОЙКА

# «Понеже от прирожения...»



## Індывідуальнасць Францішка СКАРЫНЫ

Гісторыя, кажуць, не паўтараецца. Але, відаць, не ўсе людзі хочуць у гэта верыць. Ва ўсякім выпадку, думаецца, што быў сярод тых людзей і Францішак Скарына, калі праз дзесяць стагоддзяў—6 жніўня 1517 года ў чэшскай Празе таксама ўзяў у свае рукі «Гуслі»—скончаны ім друкам у гэты дзень «Псалтыр». У прадмове да яго малады друкар тлумачыў, што назву сваю яго першадрук займеў ад інструмента, падобнага да полацкіх гусляў, толькі што дзесяціструнных, знарок як бы прынароўленых дзеля ўсхвалення дзесяці біблейскіх запаведзяў.

Больш ці менш струнаў было на полацкіх гуслях—якая розніца! Галоўнае, што гуслі былі выбраны маладым друкаром у той час, калі быў ужо і шлях Альгердаў — з яго роднага Полацка да Крэўскіх, потым Медніцкіх, потым Вострабрамскіх варотаў у Вільню. Шлях Альгердаў — шлях мяча, што прадаўжаў шляхі вояў, гайсаўшых ад Прычарнамор'я да Палесся і некалі паланіўшых і насельнікаў суровай паўноччыны, якія так любілі ракатанне гусляў.

Выбар, аднак, адбываўся не ў Празе: ён быў зроблены яшчэ ў Полацку — у Сафеі, як тады называлі Сафійскі сабор, у галубніцы пры ёй — напэўна, той, дзе свой «Псалтыр» — рукапісны — пісала Ефрасіння Полацкая. Шлях Ефрасінні да «Гусляў» быў праз келлю. Келля, як і меч, не паланіла скалярапалачаніна, хоць яго паланіла кніга, якая была ў руках царкоўнікаў. І яго жыццё пачыналася з дачыненняў з царкоўнікамі, каб ахвяраваць сябе на ўслугу паспольству, каб уступіць у вельмі складаныя ўзаемаадносіны з царкоўнікамі, свецкімі феадаламі і ўвогуле з людзьмі на зямлі, з богам—нібы існым у небе.

Думаецца, што не вельмі цяжка здагадацца, паўтарэння ў гісторыі чаго прагнуў Скарына, беручы ў рукі свой «Псалтыр». Праз 10 стагоддзяў, якія мінулі над Балтыкай, шмат што змянілася ля Заходняга Акіяна, як называлі Балтыку нашыя продкі. І славяне даўно ўжо на той час агаралі руду, пазналі меч, — мячоў стала куды больш, чым гусляў; шчэнку іх куды больш, чым музыкі. І верыў Скарына, што ў гісторыі паўтараецца не толькі злое, цёмнае, але і добрае, светлае: паўтараецца, павінна паўтарыцца і музыка, любоў да яе і толькі да яе, бо чалавек на гэтым свеце павінен жа прагнуць быць чалавекам, павінен жа прагнуць мудрасці, пекнаты, гармоніі. Павінен! А знізу ўверх: пазіраем са свайго XX стагоддзя праз XVIII, XVII, другую палову XII, а не хоць бы з XV, XIV стагоддзяў,—прычым, адасабляючы ад Асветніцтва XVIII ст. і ад Барока і ад XIII — XV стагоддзяў як «класічнага», скажам мы ў дужках, сярэдзіннага для Заходняй Еўропы Сярэдневякоўя. Скарыну мы пераважна звязваем толькі з Адраджэннем, толькі з Рэфармацыяй, маючы разгалінавана распрацаванае разуменне шкалы духоўных каштоўнасцей Адраджэння, і акрэсленае, некалькі заштампаванае ўжо бачанне тыпажу адраджэнскага дзеяча; маючы нарматыўнае разуменне Рэфармацыі і тыпажу яе дзеячаў. І не часта яшчэ, таго не заўважаючы, як бы ўціскаем, удаўліваем у рамкі клетачак адпаведных схемаў Адраджэння, Рэфармацыі непаўторную матэрыю духоўнасці Скарыны, думаючы, што ўзвышаем, узвялічваем яго, а на самай справе прыніжаем, не бачачы сапраўднай цэльнасці яго індывідуальнасці — арганічнай, натуральнай, якая толькі ж дэфарміруецца ад прымерак да фігуры Скарыны то шатаў Леанарда да Вінчы, то сутаны Марціна Лютэра.

Сённяшняя найпершая задача скарыназнаўства бачыцца, такім чынам, перадусім у канкрэтызацыі агульных яго тэзісаў, у высвятленні рэальна-гістарычнага сэнсу нашых першасных слоў аб Скарыне-асветніку, гуманісце, дзеячу ўсходнеславянскага яднання.

Што дае найперш погляд на Скарыну ў гістарычнай перспектыве «знізу»? Ён дае найперш мажлівасць убачыць Скарыну ў сваім часе, які быў ні горшы, ні лепшы, чым які-небудзь іншы гістарычны час, і для Скарыны натуральны, у якога ён быў, як мы любім гаварыць, на пярэднім краі. Таго часу яшчэ не называлі тады сярэдневяковым і не было яшчэ тады няўдзячных ацэнак сярэдневякоўя, якімі яно абрасло з часам. І быў у сваім часе Скарына, як рыба ў вадзе, а ў вадзе, як у вадзе — стрыжнявыя плыні, завадзі, невады. Скарына быў на стрыжні, трапляў у невады, а ў канцы яго— выкінула і на бераг, бо з роднай стыхіі на схілы Градчан. Ды час Скарыны быў яго часам, яго ўлоннем, — з мацярынскага ўлоння сярэдневякоўя ў яго развіцці на землях сённяшняй Беларусі ад X да XVI стагоддзя і вылоньваўся Скарына як велічная постаць.

Якія мы, усё-такі, у сваім часе часта фанабэрлівыя! Як мы часам недаацэньваем часоў мінулых! І асабліва чамусьці ва ўсіх гэтых цемрашальскіх іпастасях выразіла. Але, якраз спараджаючы такіх дзеячаў, як Скарына, Сярэдневякоўе выражала і зусім іншую — перадавую, святлістую, магутную сваю існасць.

І так, Скарына — асветнік. Яго асветніцтва — апагей развіцця сярэдневяковага рэлігійнага асветніцтва. Пачатак гэтага асветніцтва ў Белай Русі быў звязаны з літаратурнай дзейнасцю Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, агон, кажучы тэрмінам сярэдневяковай тэорыі рыторыкі, — з асветніцкай дзейнасцю Скарыны — першадрукара, публіцыста, паэта. І то было рэлігійнае асветніцтва не чалавека ў сутане, а ў доктарскай мантыі. Яно працягвала рэлігійна - асветніцкія традыцыі Кіеўскай Русі і было ў пераемнасці з багамільствам, стрыгольніцтвам і ерассю Жыдоўствуючых — асабліва ж з тымі ерасямі, якія Ноўгарадскі епіскап Генадзій называў «літоўскімі, акаяннымі». Ды ўласна ерассю рэлігійна - асветніцкая дзейнасць Скарыны не стала, бо яна ўзвышалася над царквой, касцёлам, пратэстанцкім зборам. І рэфармацыі яна не спарадзіла, бо яе клопат быў не аб царкве як арганізацыі, а больш усеагульны, больш універсальны.

Мудрасць, на якую абапіраўся Скарына, была кніжнаю і народнаю, — народная — практычна - жыццёваю, кніжная — біблейскаю і арыстоцелеўскаю. Мы часам як бы забываемся, што ў адраджэнні антычных аўтарытэтаў у Адраджэння заслуга не з першых, бо на іх на ўсім працягу свайго развіцця абапіралася і Сярэдневякоўе, і на падвалінах арыстоцелеўскай мудрасці засталіся не толькі схаласты, але і Аўгусцін і Тамаш Аквінскі, і шмат у чым секулярызаваная мудрасць кніжнікаў Францыі XIII—XIV ст. Сам Скарына сцвярджаў, што мудрасць бажэсцвенная і арыстоцелевая ёсць нібы ўсёю мудрасцю свету, бачачы яе змясцілішчам «Біблію». Але сам Скарына ў сваёй грамадскай і практычнай дзейнасці зыходзіў з мудрасці куды шырэйшай, чым у «Біблііі», як ужо гаварылася, і з кніжнай і з народнай. Само ж скарынаўскае ўзвелічэнне «прамудрасці божай» было і, можа, дасюль засталося самым патэтычным узвелічэннем розуму ўвогуле. І сапраўды, хто больш абсалютызаваў рацыё і яго сілу, ці рэлігійны асветнік Скарына ці дзеячы Асветніцтва—энцыклапедысты XVIII ст., - гэта яшчэ пытанне.

(Заканчэнне на стар. 14—15).

# «ПОНЕЖЕ ОТ ПРИРОЖЕНИЯ...»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

Складанасць праблемы індывідуальнасці Скарыны найперш у тым, што Скарына і быў дзецішчам Сярэдневякоўя і як бы не быў ім, ні то блудны ў яго сын, ні то падкідны. І гэта няцяжка зразумець, калі ўспомніць пра асобу Скарыны як прадстаўніка ўсееўрапейскай інтэлігенцыі, якой былі ў яго час людзі, падобныя да яго. Гэта ўжо ў XIII—XIV ст. ва універсітэтах Францыі тыя інтэлігенты гаварылі, што радзіма чалавека там, дзе веды. Становячыся ўсееўрапейскім інтэлігентам, Скарына з Полацка падаваўся ў Кракаў, Падую, Прагу, і гарады і гэтыя сталі яго радзімай, бо нараджалі яго як інтэлігента. Ды знаходзячы сабе ўсё новыя радзімы за межамі радзімы, Скарына ніколі не забываўся аб горадзе, у якім нарадзіўся, аб зямлі, на якой нарадзіла яго маці, аб мове, з якою бог у свет яго пусціў. Французскія гуманісты сваёй глярыфікацыяй ведаў як бы забіралі радзіму ў сваіх вучняў. Лаціна як мова еўрапейскай сярэдневяковай культуры нібы забірала ў навучэнцаў сваіх радзіму. Само дагматычна-рэлігійнае сярэдневяковае навучанне з пракламіраваннем таго, што чалавек на свеце — толькі госць, што яго вечны дом—неба, таксама ж забірала ў прававернага хрысціяніна яго радзіму. Ды ні Кракаўская Акадэмія і Падуанскі універсітэт, ні лаціна, ні бог не забралі ў Скарыны радзімы, і ён у радзімым слове ласку да сваё радзімай зямлі выпеяў, становячыся пры гэтым ужо не сярэдневяковым чалавекам.

Выпеяў жа Скарына сваю любоў да радзімы з вывучкай сярэдневяковай. А то была вывучка немалая. Бо само ж еўрапейскае рэлігійнае асветніцтва было проста пры абагатварэнні кніжнасці, слова, вуснамі аднаго са сваіх прадстаўнікоў заяўляючы: «Я ведаю двух багоў — Хрыста і славеснасць» (Эрмалая Барбара), вуснамі ж другога аб'яўляючы рыторыку рамяством, што суседнічае з геніяльнасцю. Менавіта з веданнем усіх правіл рыторыкі напісаны Скарынай яго гімн роднай зямлі, які пачынаецца словамі: «Понеже от прирожения...» І мы яшчэ не ўчынілі вельмі просценькай справы — не разгледзелі гэтага шэдэўра, што пачынае нашу нацыянальную паэзію, у яго сувязі з таямніцамі курсуса плануса і курсуса велакса, прыёмаў інверсіі, раз'ядання, усячэння, неаднаразовага паўтарэння аднаго ж і таго ж слова, найдакладнейшага захавання клаўзул — перападу дыхання, клаўзул элегічных, клаўзул рыфмаваных і ўсіх астатніх правіл рыторыкі, якая ў выпадку са Скарынай сапраўды аказалася ў суседстве з геніяльнасцю.

Ёган Гутэнберг — бацька друкарскага варштата — казаў, што друкарства ёсць навука над навукай, мастацтва над мастацтвам. Скарына, прагны мудрасці, не мог не рынуцца да навукі над навукай — да друкарства, а маючы ў душы прагу пекнаты, ён браўся за друкарства як за мастацтва над мастацтвам. І ён быў разам з тым свядомы сярэдневяковага ўзвышэння майстра як тварца формы, цудадзея, падобнага да бога-тварца. І адсюль вынікала формула дзеяння Скарыны-друкара — да мудрасці праз «Біблію», і да красы — праз «Біблію», да стварэння «Бібліі» як красы. І недзе так ці інакш суджэнні абярталіся, не маглі не абяртацца і ў выніку папярэдзе мудрасці і красы з зіхоткім німбам ахінулася паняцце «стварэння», «тварэння».

Скарына быў чалавекам, які гістарычнае значэнне сваёй друкарскай дзейнасці цалкам разумеў. Найпершы паказчык таго — наяўнасць канкрэтных датаў друку — менавіта найбольш гістарычных — першых, заключных. Пры тым нават і наяўнасць спецыяльнага выбару даты, асабліва першай—6 жніўня 1517 года, дня Спаса, Прэабражэння, далучэння да святла Фаворскага. Будучы прававерным хрысціянінам, Скарына не мог працаваць у гэты дзень ці паказваць праваслаўнаму, што ён на свята працаваў. Але Скарына не зважаў на забароны, бо яму важная была сімволіка: шэсць дзён бог ствараў свет, шостага кончана ім, Скарынай, стварэнне «Псалтыра», 6-га жніўня — свята Спаса-выратавання, дык дзеля выратавання душаў яго «Псалтыр»; 6-га — свята Прэабражэння — пераўтварэння, дык дзеля пераўтварэння душаў, тварэння новых душаў, адрыву іх ад цемры і далучэння да святла — «Псалтыр»! Паняцці «пераўтварэння», «тварэння» ставілі думку на ўзмежак з паняццем «сутварэнне», а гэта ўжо набліжала чалавека да бога, адбывалася збліжэнне бога-тварца і чалавека-тварца. І Скарына як тварэц сваёй друкаванай «Бібліі», не міргнуўшы вокам, акрамя выяваў на гравюрах падабізны бога і яго прарокаў, змяшчае ў «Бібліі» і свой партрэт, а на адным з дрэварытаў перад богам прадстаўляе ўласна сябе, укленчаным, з апушчаным долу зрокам, як і належыць прававернаму хрысціяніну. Ды такое было ўжо не ў рамках дагматычнага сярэдневякоўя, бо падымала чалавека з ніцасці, з праху—да бога, ставіла чалавека поруч з богам. То было абагатварэннем чалавека, то было апагейнай старонкай у развіцці рэлігійнага асветніцтва на Беларусі, як і варыянт супражэння тут гэтага ж асветніцтва з красой.

Парыванні Скарыны да прыгожага былі часам проста ашаламляльнымі. Пад павевамі Адраджэння? Так, пад павевамі, але, можа, у большай ступені ад прыроджанага, ад укаранёнага ў характары нашых продкаў, ад таго, што ўжо было ў беларускім сярэдневякоўі. Прагу мудрасці вяшчаў для нашых продкаў Кірыла Тураўскі: «Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего же добръе книгий разум», а прагу красы да К. Тураўскага ўяўнілі ўжо хадакі, што выбіралі Кіеўскай Русі веру і пра якіх у летапісе чытаем: «Придохом в немци, и видехом в храмах многи службы творящь, а к р а с о т ы не видехом никакоеяже».

І тут для нас немалаважны факт, што якраз частка названага летапісу з толькі што цытаванымі словамі лічыцца ўключанай у яго з недайшоўшага да нас Полацкага летапісу. І так, і дзеля спатолення прагі красы сваіх суайчыннікаў ствараў хараство пражскай «Бібліі» Скарына, ствараў «Біблію», кажучы словам У. Караткевіча, украсную, памятаючы і пра Красную, самую магутную башту Полацка і пра Красны мост з Верхняга Замка ў Запалоцце. «Краснае» было для Скарыны «прекрасным», хоць чырвоная фарба была для яго таксама прыгожай, бо «Песні песняў» друкаваў дзвюма фарбамі — і будзённай руплівіцай чорнай, і — для ўцехі вока — чырвонай, святочнай.

Пасля гэтага становіцца цалкам зразумелым, чаму «Біблія» Скарыны не магла не легчы на стол як краса і шрыфту, і буквіц-ініцыялаў, і гравюр, заставак. Душа Скарыны інакш не магла.

1621 годам датуецца верш Яна Казіміра Пашкевіча з пачатковымі іх радкамі:

Полска квитнет лаціною,
Литва квитнет русчизною...

Вобраз квету, ён асабліва стасуецца да русчызны Скарыны, да яго «Бібліі», у якой кветкі стылізаваныя і жывыя паперадзе вобразаў фауны. Зноў жа ў сваіх адносінах да прыроды Скарына сярэдневяковы ці адраджэнскі, ці адно райскімі ўстаюць з гравюр і буквіц сонца і месяц, кветкі і дрэвы? Сабакагаловымі чалавекамі Скарына не палохае. Стылізаваныя кветкі на яго партрэце — гэта найперш узоры полацкага малявання. Нацыянальная стыхія, нацыянальны дух тут у Скарыны самыя адкрытыя, самыя моцныя, як і выява яго пачуццяў захапленнямі наддзвінскім шматквеццем — васількамі, рамонкамі, канюшынкамі, канваліяй, званочкамі, шыпшынай. І якраз у гэтай сваёй неабыякавасці да прыроды Скарына ўжо — не чалавек сярэдневяковы, а ў паэтызацыі прыроды менавіта родных мясцін — зноў жа патрыёт свайго Наддзвіння.

І тут мы можам адно здзівіцца, як такі дзейсны чалавек, як Скарына, мог так завастраць увагу сваіх гравёраў, чаляднікаў, калі не сам ён быў мастаком-выканаўцам, на тым, што ў стане руху не вельмі ўбачыш, запомніш. А самога ж Скарыну мы ніяк не можам уявіць у стане сузіральным, бо ён — сам рух, само дзеянне пад дэвізам: вера без справы, без дзеяння — мёртвая. Вера ў Скарыны была ў бога, ды не меншая — у сваю справу, у свой розум і пастулаты, сфармуляваныя апосталам Паўлам: «Кожны павінен разумець нас», «Маючы... надзею, мы дзейнічаем з найвялікшай апантанасцю».

Скарына быў у сваім дзеянні апантаны да авантурніцтва. Яго друкі ў Празе і Вільні былі ўсё ж чынам яго маладосці, і Скарына ніяк не мог хацець таго, каб у памяці нашчадкаў гэты яго чын застаўся нібы забаўка, грахі яго маладосці, а не вялікі пачатак усяго яго жыцця, тым больш, што сам ён, Скарына, не мог не імкнуцца да выдатнага, поўнасцю завершанага, дасканалага, па-

# Размова з Андрэем Макаёнкам

(Працяг. Пачатак на стар. 8—9).

ні і, хочаш не хочаш, кожны, каго ён выклікаў, павінен быў выслухоўваць яго саматужныя прамудрасці. Ды што табе гаварыць! Ты ж сам крывёю ўласнага сэрца вызнаў ягоныя грубыя, беспадстаўныя дамаганні. Дружа! Чаго толькі ён не плёў тады ў адрас тваёй камедыі і ў адрас галоўнага рэдактара, які падпісаў яе ў друк! А заадно — і ў адрас паэмы «Варшаўскі шлях», — як толькі ў яго паварочваўся язык называць таленавітыя, самабытныя творы заганнымі, шкоднымі, непатрэбнымі народу! Ён крычаў, што я не меў права пасылаць гэтыя творы ў друк без узгаднення, што я шмат разоў з гэтае прычыны пашкадую, бо ён яшчэ доўга будзе сядзець у «сваім» крэсле і мая вольнасць не будзе так сабе даравана. «Я знаю, — прышчыўся ён, — хто-ніхто хоча, каб я пайшоў адсюль, але я яшчэ доўга буду тут заставацца, маё вока яшчэ доўга будзе бачыць заганы літаратуры!» Калі б ведаў ён, як мала яму засталося казырыцца! Праз тры ці чатыры месяцы ён вылецеў з займаемага крэсла, як гнілы нікудышны корак, бо партыя не магла доўга цярпець такога самаўлюбёнага, нікчэмнага дэмагога і бюракрата. Але гэта сталася праз некалькі месяцаў. А ў тыя дні быў у сядле і запатрабаваў, каб «Таблетку пад язык» і «Варшаўскі шлях» рэдакцыя зняла з нумара. Разумееш? Рэдакцыя! Каб у яго лапкі былі чысценькія! Такі быў у тыя часы метад! Я з абурэннем і катэгарычна адмовіўся... Каб было табе зразумела, на якім напале адбывалася размова, перадаю літаральна ўрывак з той «гутаркі».

У адказ на яго дамаганне зняць і камедыю і паэму я спытаў:

— У цябе тут у кабінеце ёсць магнітафон?

Ён узвіўся:

— Гэта што за пытанне?! Пры чым тут магнітафон?!

— А пры тым! Я хачу, каб было запісана на плёнцы, што я пасылаю цябе... да тае маці!

Вось, тут, дарагі дружа, я з задавальненнем пакідаю на момант раз'ятранага «дзеяча» і скажу табе колькі слоў аб тым, што гаварылася ў Пятра Міронавіча Машэрава, калі ён прыняў мяне перад зацвярджэннем на пасаду галоўнага рэдактара. Што Пётр Міронавіч вельмі шанаваў цябе і даражыў тваім талентам, — пра гэта я ведаў раней. Але пачуць, як ён выказваўся, успамінаў пра цябе — з якім бацькоўскім, братнім клопатам! — гэта адкрылася для мяне ўпершыню і вельмі хвалююча!

Пётр Міронавіч, як нам усім вядома, быў зацікаўленым чытачом нашай літаратуры, добра знаў яе лепшыя (ды і з «не лепшымі» не мінаў пазнаёміцца!) здабыткі і іх стваральнікаў. Амаль усіх больш ці менш прыкметных сваёй творчасцю пісьменнікаў ведаў у твар, з многімі быў знаёмы асабіста. Яму былі блізкія і дарагія кожная сапраўдная ўдача таго ці іншага празаіка, паэта, драматурга ці крытыка, з кожным творцам ён не мінаў пры выпадку пагаварыць, параіцца, умеў даведацца пра пісьменніцкія планы, задумы, цяжкасці, патрэбы, не цураўся дапамагчы, калі бачыў, што патрэбна яго дапамога, параіць, падказаць нешта, ад чагосьці засцерагчы. Таму і ў час той нашай сустрэчы з Пятром Міронавічам гучалі клопаты аб пісьменніках, аб поспехах беларускай літаратуры, яе ўдзеле ў поступе камуністычнага будаўніцтва, аб яе новых узлётах, аб тым, якія роля і абавязкі ў развіцці літаратуры перыядычнага літаратурнага друку, часопісаў, газет. Пётр Міронавіч то з натхненнем, з пад'ёмам расказваў пра герояў працоўных будняў, то маляваў планы новага будаўніцтва, сацыяльнага, духоўнага ўзбагачэння жыцця савецкага чалавека, то з гневам, нават з абурэннем гаварыў пра недахопы, якіх магло б не быць, калі б кожны камуніст, кожны працаўнік з поўнай аддачай сіл і здольнасцей рабіў даручаную справу. Тое ж, безумоўна, і ў літаратуры. І я з радасцю паведамляю табе, Андрэй, што ўвесь час у размове прысутнічала тваё імя. Не адзін раз Пётр Міронавіч успамінаў камедыі Андрэя Макаёнка: «Вот здорава, вот каб усе пісьменнікі так адчувалі свой час, патрэбы грамадства!..» І не адзін раз перапыняў размову і гаварыў: «Перадайце, калі ласка, Андрэю Макаёнку, што я з нецярплівасцю чакаю яго новую камедыю!..» «Прашу вас, скажыце Андрэю Макаёнку, што яго новай камедыі даўно пара быць на сцэне!..» «Новая камедыя Андрэя Макаёнка вельмі цікавая! І многія мясціны былі ўжо амаль гатовыя. Чаму не канчае?! Яна нам вельмі патрэбная!..»

З гэтых і іншых заўваг я зразумеў, што размова, безумоўна, ішла пра «Таблетку пад язык». Пётр Міронавіч чакаў яе, ведаў пра ход працы над ёй, хваляваўся, што заканчэнне п'есы затрымліваецца. І вось, калі п'еса была скончана і пайшла ў друк, асобныя людзі распачалі супраць яе сапраўдную вайну. З камедыяй «Таблетку пад язык» учынілі грубае, беспардоннае «забараняльніцтва». І яе, і паэму «Варшаўскі шлях» — творы, якія смела можна назваць гордасцю нашай літаратуры, — па-камандзёрску, адміністрацыйна знялі з часопіснага нумара. Пакарысталіся тым, што Пётр Міронавіч Машэраў быў у адпачынку, і справілі баль сваёй зламыснасці і вераломства, дэманструючы самыя нізкапробныя вартасці чыноўнае натуры. Я, безумоўна, быў упэўнены, што гэтая «перамога» ваяўнічых мяшчан ад культуры — з'ява кароткачасовая, і так яно і здарылася: прыехаў Пётр Міронавіч, і ўсё стала на свае месцы — і камедыя «Таблетку пад язык», і паэма «Варшаўскі шлях» праз колькі нумароў выйшлі да чытача на старонках «Полымя». Але, дружа мой, хоць я і стараўся цябе супакоіць, усё ж адчуваў, якога сардэчнага болю, якой цяжкай дэпрэсіі гэтая непрыглядная гісторыя табе каштавала. Адчуваў і ведаў, бо, хоць і супакойваў цябе, але ж і сам вызнаў і глушыню бяссонных начэй, і нервовую непрыкаянасць, і, прызнаюся, прыкрую душэўную збянтэжанасць: што ж можна зрабіць, каб такое не паўтаралася?..

Якое шчасце, Андрэй, што ў сваім рашучым наступе за перабудову ўсіх сфер дзейнасці нашага грамадства партыя строга асудзіла падобныя каманднa-адміністрацыйныя метады кіраўніцтва літаратурай і мастацтвам! І як шкада, што ты не можаш на ўсю магутнасць свайго таленту пакарыстацца сягоння ўсімі сугучнымі часу заваёвамі нашага ладу жыцця — перабудовай, дэмакратызацыяй, публічнасцю, раскаванасцю душэўных і духоўных сіл чалавечых узаемаадносін, — не адзін трыумф чакаў бы цябе сягоння на тваім слаўным творчым шляху! Зноў і зноў я ўслухоўваюся душою ў твой голас, бачу твой праніклівы позірк, тваё смелае макаёнкаўскае зазіранне ў самыя глыбінныя працэсы жыцця, — і зноў, і зноў востра смутак праціне сэрца: колькі, я ўпэўнены, карыснага, добрага, таленавітага аддаў бы нашай перабудове, нашаму гістарычна-ачышчальнаму, наступальнаму руху наперад!.. Колькі наноснага, застойлівага, бюракратычнага, злачыннага, непрымальнага для жыцця савецкага грамадства адкрыла нам публічнасць і галоснасць, — і як патрэбен зараз партыі, народу востры

 © PDF: Kamunikat.org 2023

## НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

# САБРЫС — НАДЗЕЙНЫ СУСЕД

Ці можа існаваць культура без культуры міжнацыянальных адносін? У апошнія гады ў гэтым пытанні мы стараемся разабрацца. Бо сапраўды: многанацыянальнасць — унікальная рыса нашай савецкай культуры. І вывучаючы матэрыялы нядаўняга Пленума ЦК КПСС, першую цытату з прамовы М. С. Гарбачова я сабе перапісаў такую:

«Сапраўдны інтэрнацыяналізм, сапраўдная дружба народаў магчымы толькі пры глыбокай павазе да годнасці, гонару, культуры, мовы і гісторыі кожнага народа, шырокіх сувязях паміж імі. Мы павінны ўсяляк садзейнічаць далейшаму пашырэнню кантактаў нацыянальных культур, іх узаемнаму ўзбагачэнню, іх уздыму і росквіту».

Паўтараю гэтыя словы, і праз іх сэнс стараюся ацаніць латышска-беларускія гістарычныя і культурныя сувязі, якія даўно вывучаю. Сёння прыгадаю толькі адно імя. І гэтага будзе дастаткова, каб узнадзеяцца: «Крыніца нашай сілы — у свабодным развіцці нацыянальных культур, узбагачаных духоўным вопытам брацкіх народаў і ўсяго чалавецтва».

Добрых дваццаць гадоў творчых стасункаў з Беларуссю ў Мірдзы Абалы — латышскага вучонага, перакладчыка. Яшчэ яе называюць паўнамоцным прадстаўніком дружбы нашых народаў — латышскага і беларускага.

А пачалося ўсё ў Мірдзы Абалы з Полацка, з Палаты, з той рэчкі, якая і перакладаецца з латышскай мовы як паводкавая, паўнаводная.

Калісьці крывічы-палачане накаціліся на балцкія землі. І сёння толькі археолагі ў курганах, філолагі ў мовах могуць выявіць рэха тых вякоў, калі пачалося наша яднанне. Хачу падкрэсліць: не ўзаемнае вынішчэнне, не выцясненне, а повязь, лучво, менавіта яднанне або дыфузія, калі ўжыць замежнае слоўца. Я сам з Прыдзвіння, і школка наша месцілася ў вёсцы Латышы, а ў Латышкі бегаў я ў госці да цёткі Наташы, якая была замужам за Юзікам Путро (путра — па-латышску наша).

А што тычыцца кургаНоўгарадзішчаў, то яскравы прыклад гістарычнаму спадкаемству ёсць у вёсцы Прудніві Павяцкага сельсавета майго ж Мёрскага раёна. Там у гарадзішчы выяўлены два культурныя гарызонты. У ніжнім знойдзена кераміка, блізкая да керамікі паселішчаў Прыбалтыкі, у верхнім — усходнеславянская ганчарная кераміка. У II—X стагоддзях тут было ўмацаванае паселішча патрыярхальнай абшчыны, у XI—XVII стагоддзях — феадальная сядзіба (дарэчы, мае Мёры і Майёры на Рыжскім узмор'і таксама ў роднасці).

Гэта я ўсё пішу для таго, каб чытачы лепш зразумелі радок з нядаўняга пісьма нашага прыязнага сябра з Рыгі Мірдзы Абалы: «...Вось чаму я ў Беларусі пачуваюся так добра: гэта ж радзіма маіх продкаў!»

«Культура» нацыянальных адносін да нядаўняга часу прымала надта ж катэгарычныя высновы: мне, як беларусу, хацелася як мага большага праяўлення беларускасці, латышу — латышскасці і так далей. Але ж ніякай кітайскай сцяной сёння не адмяжуешся ад супольства свету. Ад Дастаеўскага, Твардоўскага або Упіта не «паменее», а толькі «паболее», калі мы будзем шанаваць іх беларускі радавод. І калі мы «падзелімся» з Мірдзай Абалай культурным слоем пракаветных курганоў, легендамі валатоўак — Палата ад гэтага не стане плытчэйшай. А вось Дзвіну-Даўгаву, здаецца, уратавалі ад затаплення толькі сумесныя намаганні латышоў і беларусаў. Вось гэта і ёсць не папяровыя, а жыццёвыя, канкрэтныя праявы інтэрнацыяналізму.

Гэтай вялікай ідэі чалавекалюбства ад самага пачатку сваёй свядомай работы і служыць Мірдза Эдуардаўна Абала. Нарадзілася яна 23 лютага 1923 года. (Значыць, нядаўна ёй споўнілася 65 гадоў.) Камсамольская актывістка, яна толькі выпадкова не загінула ў турме ад рук нямецка-фашысцкіх акупантаў. Пасля вайны скончыла Латвійскі універсітэт і стала працаваць у Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук. Будучы кандыдатам філалагічных навук, даследуючы творчасць Райніса, Судрабкална, адкрыла для сябе і пераняла іх шчырую любоў да Беларусі. І з Полацка, куды Мірдза Абала была запрошана на святкаванне 450-годдзя беларускага кнігадрукавання, пачалася яе служба латышска-беларускаму пабрацімству.

Даследчыцкая работа натуральна перайшла ў перакладчыцкую. Пра творчы набытак Мірдзы Эдуардаўны можна прачытаць у першым томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Напішу пра нядаўняе. Летась за ўдзел у выданні поўнага акадэмічнага збору твораў Яніса Райніса ў 30-ці тамах ёй было нададзена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Латвійскай ССР. Летась здала ў выдавецтва «Ліесма» чарговы рукапіс перакладаў з беларускай мовы. Адрэдагавала на грамадскіх пачатках пераклад В. Сёмухі драмы Я. Райніса «Агонь і ноч», якая сёлета выходзіць у «Юнацтве».

Услед за рыжанінам-беларусам Пятром Масальскім (гэта М. Абала адрэдагавала яго перакладчыцкую кнігу «Дайны») яна спрабуе скласці латышска-беларускі слоўнік. Але ёсць пытанне: хто выдасць? Засталася ж нявыдадзенай па-беларуску кніга Д. Вінсана і М. Абалы «Дружба, умацаваная ў вяках» — пра беларуска-латышскія гістарычныя і літаратурныя сувязі.

Цяжка перакласці імя Мірдзы Абалы. У ім — свячэнне, мігценне, ззянне. Гэтым імем называюць чалавека, каб ён быў радасным і вясёлым. Такая і ёсць у жыцці Мірдза Абала-Яблыня з яе шчырым сэрцам сябра-суседа.

Сяргей ПАНІЗНІК.

# КАБ НЕ ПАГАСЛА ПАХОДНЯ

Яшчэ ў студэнцкія гады прачытаў я ў часопісе «Маладосць» аповесць «Бурштынавая пацерка», напісаную ў форме дзённіка. Уразіла здольнасць аўтара, археолага-навукоўца, бачыць у час вандровак сваю зямлю па-юнацку свежымі вачамі, з пачуццём шчымлівай непасрэднасці пранікаць у глыбіні роднай гісторыі.

Так сталася, што пасля шмат гадоў давялося працаваць разам з аўтарам той аповесці — Міхасём Чарняўскім. Не перастаю здзіўляцца апантанасці і шчырасці, з якімі гэты чалавек займаецца сваёй любімай справай. Не толькі беларускія археолагі, але вучоныя Саюза і краін народнай дэмакратыі высока ацанілі манаграфію М. Чарняўскага, прысвечаную помнікам Панямоння ў каменным веку. Перш чым напісаць гэтую кнігу, прайшоў ён не адну тысячу кіламетраў па слядах старажытных паселішчаў, правёў раскопкі многіх з іх. М. Чарняўскі зрабіў здабыткам навуковай, культурнай грамадскасці унікальныя помнікі — крэмнездабыўныя шахты ў пасёлку Краснасельскі пад Ваўкавыскам, дзе яшчэ задоўга да нашай эры працавалі людзі.

Акрамя манаграфіі, даследчык напісаў дзесяткі навуковых артыкулаў для часопісаў і зборнікаў. Адкрыццём для многіх галін навукі, а перадусім гісторыі, мастацтвазнаўства з'явіліся знойдзеныя ў часе раскопак і навукова апісаныя М. Чарняўскім скульптурныя выявы чалавека, птушак і звяроў неалітычнай эпохі. Наперадзе — кніга пра паселішчы на тарфяніках Паўночнай Беларусі, якія вывучаюцца ўжо больш за два дзесяцігоддзі. Здабыткам навукі стала мноства старажытнейшых прылад працы, начыння, бытавых прадметаў і добра захаваных мастацкіх вырабаў з дрэва, рогу і косці. І ўсім гэтым помнікам — больш за чатыры тысячы гадоў!

Вабіць М. Чарняўскага мастацтва. І сведчаннем таму — не толькі яго запамінальныя гумарыстычныя малюнкі на старонках друку, але і аўтарства ў калектыўнай працы «Гісторыя беларускага мастацтва», дзе дбайна і з любоўю аналізуецца ім арнамент і дробная пластыка, упрыгожванні і малюнкі старажытных насельнікаў Беларусі.

Шырыня навуковых інтарэсаў М. Чарняўскага выявілася і ў яго захопленасці часам, калі складвалася беларуская народнасць, — сярэднявеччам. Разам з такім жа апантаным даследчыкам медыявістам Зянонам Пазняком ён летась пры раскопках Лоска на Валожыншчыне (таго, дзе была друкарня Сымона Буднага) адкрыў горад XII стагоддзя — летапісны Лошаск, адзін з гарадоў на заходняй ускраіне Полацкай зямлі. На яго ж рахунку і раскопкі роднага Мядзела і шкляной гуты ў Іллі на Вілейшчыне.

Шмат робіць М. Чарняўскі для папулярызацыі гістарычных ведаў сярод насельніцтва. Тут і лекцыі, і выступленні па радыё і тэлебачанні, і кніжкі «З глыбінь тысячагоддзяў», «Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі», «Страла Расамахі», цікавыя і карысныя не толькі для дзяцей, але і для дарослых. Нядаўна ён падрыхтаваў яшчэ адну кнігу — «Вогнепаклоннікі».

Шмат артыкулаў па пытаннях беларускай археалогіі М. Чарняўскі надрукаваў у БелСЭ і ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Ім і яшчэ невялікай групай энтузіястаў складзены і выдадзены беларускі каляндар на 1987 год «Кола дзён», хутка павінен выйсці такі ж каляндар на сёлетні год.

У час сваіх шматлікіх археалагічных вандровак па Беларусі даследчык не толькі шукае стаянкі, курганы, гарадзішчы, але і рупна запісвае мясцовыя легенды, любіць пагутарыць з дзядамі, зацікавіць сваімі пошукамі школьнікаў. Шмат добрага ён рабіў і робіць для маладых навукоўцаў, дзеліцца з імі сваім багатым вопытам, надае ўпэўненасці і разважлівасці. А яшчэ — актыўная грамадская дзейнасць у Беларускім таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Дарэчы, мала, пэўна, хто ведае, што М. Чарняўскі паслужыў прататыпам вобраза палымянага збіральніка роднай даўніны Мар'яна ў кнізе «Чорны замак Альшанскі» У. Караткевіча.

Пра ўсё гэта захацелася згадаць менавіта ў гэтыя дні, калі Міхасю Міхайлавічу споўнілася пяцьдзесят.

А скончу гэтыя нататкі словамі з адной ягонай кнігі: «Нашы далёкія продкі: мужныя паляўнічыя і воіны, руплівыя збіральнікі і рыбакі, працавітыя земляробы і жывёлаводы — перадалі паходню жыцця сваім нашчадкам. На працягу доўгіх тысячагоддзяў пераходзіла яна ад пакалення да пакалення. Ажно пакуль не трапіла да нас з вамі. Каб мы трымалі яе высока і не давалі пагаснуць. Каб памяталі пра мінулае і клапаціліся пра будучае».

Эдвард ЗАЙКОЎСКІ,
кандыдат гістарычных навук.

## НА блакітным ЭКРАНЕ

з 14 па 20 сакавіка

14 сакавіка, 19.25
**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**
Агляд крытычнай пошты тыдня.

14 сакавіка, 19.50
**«ШАНУЙЦЕ ПЕСНІ СВАЕ»**
Сустрэча з народнай спявачкай Н. Буран з вёскі Ахонава Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці.

15 сакавіка, 20.15
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**
Канцэрт камерна-інструментальнага ансамбля Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам Я. Валасюка.
У праграме творы Аладава, Глебава, Вагнера, Туранкова, Семянякі, Суруса, Пукста.
Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

15 сакавіка, 21.50
**«ЛІРА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма.
Тэма перадачы — мода і грамадства.
Вядучы — рэдактар У. Сцепаненка.

16 сакавіка, 20.20
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**
Вершы У. Караткевіча чытае Г. Кухальская.

16 сакавіка, 21.50
**У ТЭАТРАХ РЭСПУБЛІКІ**
А. Мдзівані. «Дзяніс Давыдаў».
Спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР.
Рэжысёр-пастаноўшчык Б. Утораў.

18 сакавіка, 19.45
**«РАДЗІМІЧЫ»**
Літаратурна-мастацкі часопіс з Гомеля.
Вас чакае сустрэча з маладым мастаком У. Лосевым і пісьменнікам В. Ткачовым. Пачуеце новыя песні Е. Акуліна і пазнаёміцеся з літаратурным гуртком Жлобінскага дзіцячага дома.

19 сакавіка, 16.15
**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ...»**
Да 70-годдзя ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі. Успамінае А. Звонак.

19 сакавіка, 18.00
**«МЕТРАНОМ»**
Некалькі відэасюжэтаў з удзелам папулярных артыстаў савецкай і зарубежнай эстрады. Сярод удзельнікаў праграмы — кампазітар Ю. Семяняка, паэт У. Карызна, артысты М. Жылюк, І. Адзінцова, Я. Еўдакімаў, В. Пархоменка, амерыканская джазавая спявачка А. Франклін.
Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

20 сакавіка, 16.00
**«МІНСК МУЗЫЧНЫ»**
Р. Шуман. «Рэквіем». Выконвае Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР імя Р. Шырмы і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР.
Каментарый Л. Барадзіной.

20 сакавіка, 19.20
**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**
«Скарбонка беларуская». Фальклорна-этнаграфічная праграма з удзелам народных музыкантаў.

20 сакавіка, 22.50
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Эстрадна-музычная праграма.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01095 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.



 © PDF: Kamunikat.org 2023